ГРОДНА
№15 (567),
25 ліпеня

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Нагода паглядзець у неба




*15 жніўня адзначаем урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

на старонцы 2

## Адпустовая ўрачыстасць у санктуарыі ў Тракелях




*10–11 ліпеня адбыліся ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Каралевы нашых сем'яў.*

на старонцы 4

## "Рэкалекцыі – гэта не адзіны шлях да паглыблення духоўнага жыцця, але заахвочваць варта"




*Езуіт а. Віктар Жук пра ігнацыянскія духоўныя практыкаванні і альтэрнатыву ім.*

на старонках 4–5

# СТАРАСЦЬ? РАДАСЦЬ!



*Сталыя людзі не толькі з'яўляюцца прыкладам захавання веры, але і могуць "усталяваць высокую планку" ў кожнай сферы грамадскага жыцця*

**26 ліпеня каталіцкі Касцёл узгадвае св. Ганну і св. Яўхіма, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, атачаючы іх асобы ў гэты дзень асаблівай пашанай. Павага да старэйшага пакалення і імкненне прыслухоўвацца да яго вядома з біблійных часоў.** *"Не аддаляйся ад аповесцей старцаў, бо і яны навучыліся ад бацькоў сваіх, і ты навучышся ад іх развaжлівасці ды які ў выпадку патрэбы даць адказ" (Сір 8, 11–12),* **– кажа Святое Пісанне. Аднак ці захавалі мы гэты наказ?**

на старонцы 3

# ШУКАЮЦЬ БОГА Ў ПРОСТЫХ РЭЧАХ



*Сёстры ўручаюць юбілейныя пернікі біскупам*

**Кангрэгацыя Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езуса адзначае свой юбілейны год – стагоддзе таму паўстала іх кангрэгацыя, якая ўжо 30 гадоў прысутнічае таксама ў Беларусі.**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*У гэтым годзе мы ўпершыню адзначаем Сусветны дзень бабуль ды дзядуль і пажылых людзей, які быў устаноўлены па ініцыятыве Святога Айца Францішка.*

*“Народ, які не клапоціцца пра бабуль ды дзядуль і не ставіцца да іх добра, – гэта народ без будучыні!” (Прамова папы Францішка падчас сустрэчы з пажылымі людзьмі. Плошча св. Пятра, 28 верасня 2014 года).*

*Не трэба шмат, каб даць адчуць пажылым асобам, часта хворым, што яны для нас па-ранейшаму важныя і любімыя. Дастаткова ўсяго крыху цярплівасці, далікатнасці, самаадданасці і ўвагі. Нічога страшнага, што мы ў соты раз пачуем адну і тую ж гісторыю, расказаную тымі ж словамі.*

*Неабходна наведваць пажылых людзей, бацькоў, тэлефанаваць ім, калі жывуць далёка. Не дазволім, каб нашы родныя пражывалі свае апошнія гады на зямлі, адчуваючы крыўду. Няхай удзячнасць і любоў да іх дапамогуць нам знайсці моманты, якія мы маглі б падарыць толькі ім!*



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**4 жніўня**

***Успамін св. Яна Марыі Віянэя, прэзбітэра.***

*Св. Ян Віянэй нарадзіўся ў Дардзілі каля Ліёна (Францыя) у 1786 годзе. Быў пробашчам у Арсе ў дыяцэзіі Беле. Адрадзіў парафію сваёй любоўю да прыхаджан, малітвай і ўтаймаваным жыццём. Натоўпы людзей сцякаліся да яго, каб паспавядацца альбо папрасіць парады. Знясілены ад звышчалавечай працы і самаўтаймаванняў, ён памёр у Арсе 4 жніўня 1859 года.*

**6 жніўня**

***Свята Перамянення Пана.***

*Свята называецца таксама эпіфаніяй ці тэафаніяй. Літургія гэтага дня ўзгадвае апісаную ў Евангеллях падзею, у якой Езус Хрыстус аб’явіў сваё боства. Перамяненне Езуса павінна было ўмацаваць веру апосталаў і падрыхтаваць іх да прыняцця мукі і смерці Езуса.*

**14 жніўня**

***Свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, прэзбітэра і мучаніка, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі.***

*Максімільян Марыя Кольбэ нарадзіўся ў Здуньскай Волі (Польшча) у 1894 годзе. Уступіў у ордэн францысканцаў і ў 1918 годзе атрымаў святарскае пасвячэнне. У 1941 годзе ён быў заключаны немцамі ў канцэнтрацыйны лагер у Асвенціме. Добраахвотна прыняў смерць у галодным бункеры замест іншага зняволенага. Памёр 14 жніўня 1941 года, дабіты ін’екцыяй.*

**1 верасня**

***82-ая гадавіна выбуху Другой сусветнай вайны.***

*Даручаем Богу ў малітве ўсіх загінуўшых і молімся аб супакоі ў свеце, а асабліва ў нашай краіне. Таксама ў гэты дзень адзначаецца Сусветны дзень малітвы аб абароне тварэння, мэта якога – заахвоціць да глыбокага духоўнага навяртання і разважанняў у кантэксце экалагічнага крызісу.*

**4 верасня**

***Успамін бл. Марыі Стэлы і 10-ці яе паплечніц, мучаніц з Навагрудка.***

*Манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта былі расстраляны ў Батароўскім лесе 1 жніўня 1943 года. Яны аддалі свае жыццё, каб выратаваць 120 чалавек, у асноўным бацькаў сем’яў, і кс. Аляксандра Зянкевіча.*

**8 верасня**

***Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*Гэтае свята нагадвае нам, што Марыя – звычайны чалавек. Хоць і была захавана ад сапсаванасці граху, Яна ўсё жыццё мела вольную волю і ні да чаго не была прымушана. Толькі Яе давер, паслухмянасць і верны адказ на Божы голас прывялі да таго, што “благаслаўляюць Яе ўсе пакаленні” (параўн. Лк 1, 48).*

# НАГОДА ПАГЛЯДЗЕЦЬ У НЕБА

працяг са с. 1

**Штогод, перажываючы ўрачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мы скіроўваем свой позірк да неба, куды з целам і душой была ўзята Божая Маці. Гэта таксама добрая нагода паразважаць, ці магчыма неба для людзей XXI стагоддзя. Ці ёсць у нас шанс трапіць туды?**

Кс. Юрый Марціновіч

Шукаючы адказы на гэтыя пытанні, у нас адразу ўзнікаюць сумненні: быццам бы Марыі лягчэй, бо Яна была абрана Богам і надзелена Ім асаблівымі ласкамі і дарамі. Аднак нельга забываць, што і мы можам атрымаць нябесную ласку. У рэшце рэшт, усё наша жыццё накіравана на тое, каб дасягнуць неба.

Кожны чалавек мае нейкія планы. Ёсць важныя, жыццёвыя планы: стварыць сям’ю, пабудаваць дом ці нават святыню, развіць кар’еру ці заснаваць уласную фірму. Усё гэта важна, але яно павінна, найперш, дапамагчы нам, а не перашкаджаць нашаму жыццёваму шляху да неба. Што з таго, калі мы здабудзем славу, багацце альбо павагу і аўтарытэт сярод людзей, калі страцім самае галоўнае?

Неба падобна на горад, размешчаны на высокай гары, у які не ўдасца проста заехаць, а трэба падняцца. Тыя, хто лянуецца ўздымацца, могуць не заваяваць яго, падобна як дрэнныя людзі, якія не хочуць яго шукаць. Калі мы абыякавыя да неба ў гэтым жыцці, нам будзе цяжка наблізіцца да яго ў момант смерці. Туды трэба накіроўвацца нястомна.

Прыклад гэтага паказала нам Марыя. Яна пачала сваю вандроўку да неба ў момант звеставання ў Назарэце. Дала тады згоду стаць Маці Збаўцы. Гэта дэманструе бязмежны давер і паслухмянасць Марыі Богу, які прыходзіць да Яе. Пазней у сваім жыцці Багародзіца шмат разоў пацвярджала свой давер да Усемагутнага, што прывяло Яе таксама пад крыж на Галгофу. І нягледзячы на пакуты Сына, Яна ніколі не губляла даверу, таму заслужыла быць узятай у неба.

**Ушаноўваючы Марыю Унебаўзятую, давайце будзем не толькі захапляцца Яе ўзнясеннем і тым, што Бог у Ёй здзейсніў, але і прагнуць пасяліцца з Ёю ў Валадарстве Яе Сына, а таксама абудзім у сабе шчырае жаданне зрабіць усё магчымае са свайго боку, каб аказацца ў небе.**

А як справы з нашым даверам? Асабліва тады, калі здаецца, што Бог нас не слухае: бо хвароба прагрэсіруе, сям’я распадаецца, жыццёвыя планы не рэалізуюцца альбо памірае хтосьці з блізкіх... Так лёгка тады засумнявацца і звярнуць з правільнай дарогі. Аднак сумненні і адсутнасць веры не з’яўляюцца рашэннем праблемы. Вось такі жыццёвы шлях да неба – звілісты і цяжкі, з мноствам паваротаў і момантаў, калі не ведаем куды ісці.


wikipedia.org

Аднойчы журналістка спытала ў Мар’яны Папялушкі, маці бл. Ежы Папялушкі, як яна вытрымала ўсе пакуты, якія прынесла яе жыццё, і пры гэтым не зламалася. Маці благаслаўлёнага святара тады адказала: “А вы хочаце ўвайсці ў неба без крыжа? Дык не атрымаецца”.

Нягледзячы на мноства нягод, цяжкасцей і гэтых неспакойных часоў, таксама і мы, жывучы ў такіх, а не ў іншых умовах, можам пайсці ў неба. Таму што ў нашу вандроўку ўпісаны крыж. Дапамогай на шляху да неба з’яўляецца давер да Бога. Калі ўзнікаюць цяжкасці, ён дапамагае нам пераадолець уласныя слабасці.

Такім чынам, няхай Маці Божая, якую ў сярэдзіне жніўня ўшаноўваем як Унебаўзятую, будзе для ўсіх нас прыкладам у штодзённых выбарах, паказваючы, як накіроўвацца ў неба на працягу ўсяго жыцця тут, на зямлі.

**Урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі адзначаем 15 жніўня.**

# СТАРАСЦЬ? РАДАСЦЬ!

працяг са с. 1

Анжаліна Марцішэўская

### НА АБОЧЫНЕ ГРАМАДСТВА

За апошні час тэхнічнае развіццё ступіла далёка наперад, разам з тым, нібы адкідваючы назад тых, хто не паспявае за прагрэсам. Сёння трохгадовае дзіця будзе куды лепш разбірацца ў абслузе гаджэтаў, чым сталы чалавек. Адначасова з экранаў смартфонаў і тэлевізараў на нас звычайна глядзяць маладыя твары, а калі ў рэкламны ролік і трапляюць узроставыя акцёры, то ўсе прыкметы іх старэння старанна маскіруюцца. Сталыя людзі маюць куды менш магчымасцей у сферы адукацыі і працы, чым маладзёны. І калі Заходняя Еўропа, прынамсі, можа пахваліцца тым, што пенсіянеры маюць дастаткова сродкаў для арганізацыі годнага адпачынку – сярод тамашніх бабуль і дзядуль вельмі папулярны турызм, – то ў нашай краіне сталы чалавек ушчэмлены нават у гэтым. Пенсійныя выплаты задавальняюць толькі асноўныя патрэбы і не могуць дапамагчы разнастаіць вольны час, якога ў пенсіянераў шмат.

Аднак, вяртаючыся да праблемы дыскрымінацыі сталых людзей у адукацыйнай і прафесійнай сферы, трэба адзначыць, што яна не лакальная, а паўсюдная. Паводле апошняй ацэнкі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, кожны другі жыхар планеты ў той ці іншай ступені негатыўна ставіцца да ўзросту і старэння. Прадузятасць адносна пажылых людзей, якая існуе ў грамадстве, прыводзіць да іх ізаляцыі. Нездарма XXI стагоддзе адзначылася з'яўленнем адмысловага тэрміну – эйджызм. Ён праяўляецца ў гатоўнасці ўспрымаць адэкватна і супрацоўнічаць толькі з тымі людзьмі, якія адпавядаюць нейкаму загадзя ўстаноўленаму крытэрыю ўзросту. Такім чынам, сучасныя ўстоі адносна сталых асоб супярэчаць біблейскай ісціне: *“Якая цудоўная мудрасць старцаў і як адпавядае людзям шаноўным разважлівасць і рада!” (Сір 25, 7).*

### “Я Б ЗМАГАЛАСЯ, НАВАТ КАЛІ Б МЯНЕ ВЫГАНЯЛІ”

Сафіі Максімік 67 гадоў. Жанчына спрытна абыходзіцца з аўтамабілем, без цяжкасці зарабляе аўтарытэт у новай супольнасці (дапамагае шматгадовы досвед на кіраўнічай пасадзе), а сёлета мае чарговае дасягненне. Яна – выпускніца.

Спадарыня Сафія скончыла Тэалагічны каледж імя св. Казіміра ў Гродне і цяпер з'яўляецца дыпламаваным спецыялістам у пытаннях асноў каталіцкай веры. Як прызнаецца сама пенсіянерка, вучыцца было нялёгка. Аднак дадае, што не цяжэй, чым маладым студэнтам.

*“Я нарадзілася ў праваслаўнай сям'і ў часы савецкага атэізму. Практыкі веры амаль не мела. Аднак, калі выходзіла замуж, бацькі жаніха паставілі ўмову: каб я вывучыла неабходныя малітвы і мы ўзялі касцёльны шлюб. Так і зрабілі”*, – распавядае спадарыня Сафія.

З галавой у каталіцкую веру жанчына не акунулася, толькі зрэдку наведвала касцёл. Намагалася прытрымлівацца пэўных асноў, але Жывога Бога не сустрэла. Нягледзячы на слабую рэлігійную актыўнасць, спадарыня Сафія дзеліцца, што заўсёды адчувала нейкую звышнатуральную падтрымку ў складаных жыццёвых сітуацыях: *“Толькі цяпер разумею, што гэта было дзеянне Божай ласкі, Божага Провіду”.*

Перамена ў духоўным жыцці адбылася тады, калі ў паўсядзённасці жанчыны здарылася бяда. Пасля 20-ці гадоў шлюбу яе нявестка закахалася ў другога мужчыну і пакінула сына Сафіі, што амаль ушчэнт разламала сям'ю. *“Гэта адбылося 10 гадоў таму. Каб знайсці суцяшэнне, я пачала рэгулярна хадзіць у касцёл. Аднак увесь час адчувала недахопы ў веданні асноў веры, літургіі, Святога Пісання. Калі выйшла на пенсію, адразу з'явіўся вольны час. Займаць яго агародам і нават невялікім прадпрымальніцтвам – я крыху прадавала агародніну на рынку – мне было мала. Таму, пачуўшы пра тэалагічныя курсы, адразу вырашыла стаць студэнткай”*, – адзначае пенсіянерка.

*“Сярод студэнтаў я была самай старэйшай. Адчувала сябе няёмка. Мяне нават не ўзлюбілі: я часта рабіла маладым заўвагі, бо яны хацелі «пашушукацца», а мне хацелася ўважліва выслухаць лекцыю, усё запісаць. Але сітуацыя хутка змянілася.*

**Падаць дакументы на навучанне ў каледжы можна да канца жніўня. Падрабязнасці па тэлефонах: (8 029) 887-71-05, (8 0152) 61-05-24. Навучанне бясплатнае.**

*Мяркую, усе зразумелі, што я такі ж студэнт, як і яны. Проста мне трэба было крыху больш чытаць, слухаць. Не мае значэння, малады ты ці стары – кожнаму патрэбны высілак, каб чагосьці дасягнуць. Таму мы на роўных правах”*, – разважае спадарыня Сафія.

Пенсіянерка дадае, што пасля аднакурснікі нават дапамагалі ёй з дыпломнай працай. Спадарыня Сафія не ўмела добра карыстацца камп'ютэрам, таму ўсю працу пісала ўручную. Дзяўчаты ж надрукавалі яе ў электронным варыянце.

*“Хачу падкрэсліць, што ў годным успрымanні ці то ўзроставага студэнта, ці то ўзроставага супрацоўніка, вялікую ролю грае кіраўніцтва. Я вельмі ўдзячная а. Андрэю Шчупалу CSsR, намесніку дырэктара па навуковай рабоце, які падштурхнуў мяне да правільнага выбару тэмы дыпломнай працы. Я пэўны час працавала ў Новай Рудзе, дзе айцец мае парафію. І ён прама падказаў: маўляў, ты ж ведаеш праблему вёскі і мясцовага калектыву, варта ад гэтага адштурхнуцца. І я пачала пісаць пра ўплыў алкагалізму на маральнае жыццё сям'і”*, – распавядае жанчына.

Пенсіянерка ўзялася за працу як руплівая студэнтка: вывучала тэму сям'і, разважаючы Святое Пісанне, карысталася семінарыйнай бібліятэкай, чэрпала інфармацыю з інтэрнэту і звярталася за каментарыямі да нарколага.

*“Прыемна таксама, што мяне хваліў дырэктар каледжа кс. Юрый Марціновіч. Ведаеце, гэта дадавала адвагі і прымушала адпавядаць. Увогуле, дзякую ўсім настаўнікам за іх карэктнасць, цярплівасць і ветлівасць”*, – дадае жанчына.

Будучы выпускніцай, спадарыня Сафія прызнаецца, што цяпер ёй моцна хочацца дзяліцца атрыманымі ведамі, бо яна на ўласным досведзе ўпэўнілася, што развіццё духоўнага жыцця дазваляе адчуць сябе шчаслівым, робіць больш простым стаўленне да праблем, у тым ліку да нюансаў здароўя ў сталым узросце.

*“Галоўная выснова – што вучыцца можна ў любым узросце. Ведаеце, я заўважыла, што пакуль навучалася ў каледжы, стала лепш выглядаць! Сапраўды! Усе мае знаёмыя равеснікі пастарэлі, а я расквітнела!”*, – дадае з усмешкай пенсіянерка.

А тым, хто хоча распачаць новую прыгоду ў сталым узросце, спадарыня Сафія раіць не баяцца і выкарыстаць упоўні гэтую масу пенсійнага часу, бо з Богам усё магчыма.

### СТАРАСЦЬ ЯК МАГЧЫМАСЦЬ ЗРАБІЦЬ ЖЫЦЦЁ БОЛЬШ НАСЫЧАНЫМ

Выхад на пенсію дазваляе ўрэшце заняцца тым, на што не хапала часу з-за шчыльнага графіка. Можа, гэта нейкае закінутае хобі, жаданне паспрабаваць штосьці новае або проста працягнуць працаваць, але ў іншай сферы – менш аплачваемай, але больш блізкай сэрцу. Канешне, гэта магчыма ў тым выпадку, калі ў дзяржаве, у грамадстве створаны адпаведныя ўмовы.

**Поўны спіс прапаноў ад Універсітэта залатога веку можна знайсці на сайце uzv.by або па тэлефонах: (8 0152) 62-01-81, (8 029) 292-01-81.**

У Гродне грамадская супольнасць паклапацілася пра пажылых людзей, і ўжо на працягу дзесяці гадоў у горадзе дзейнічае Універсітэт залатога веку, накіраваны на паляпшэнне якасці жыцця пенсіянераў. У межах Універсітэта чалавек можа вывучыць замежную мову, навучыцца маляваць або карыстацца камп'ютэрам. Можа стаць валанцёрам у розных сацыяльнанакіраваных праектах, дапамагаць, што сталыя людзі не абуза, а карысны рэсурс для грамадства. Можа здзейсніць вандроўкі па Беларусі і суседніх краінах або лепш задбаць пра здароўе праз асваенне танцаў, гімнастыкі або іншых відаў фізічнай актыўнасці. І, канешне, гэта магчымасць знайсці новых сяброў і аднадумцаў!



*Пажылы ўзрост – гэта не нагода забыць пра знакі ўвагі адзін да аднаго. Да таго ж у сталасці можна нанова адкрыць узаемнае каханне. Магчыма, яно не будзе палкім, але затое надзейным, бо правераным часам.*
*Ганна і Тадэвуш Жук з Ліды падчас аднаўлення сужэнскіх абяцанняў у Тракелях. Сёлета пара адзначыла 59 гадоў шлюбу*




*Спадарыня Сафія пасярэдзіне*

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Папа наведае Славакію

“Пантыфік прыедзе ўмацаваць нашу веру, аслабленую секулярызацыяй, матэрыялізмам і індывідуалізмам”, – так прэссакратар епіскапату Славакіі пракаменціраваў рашэнне Францішка наведаць краіну ў верасні.

Кс. Крамара паведаміў, што Папа наведае Браціславу і Кошыцы – сталіцы двух лацінскіх мітраполій, а таксама Прэшаў – сядзібу грэка-каталіцкай мітраполіі. Асаблівай падзеяй стане ўдзел Францішка ў нацыянальнай пілігрымцы да марыйнага санктуарыя ў Шашціне, які некалі наведаў Ян Павел II.

### Пантыфік прызначыў Генеральнага рэлятара Сінода Біскупаў

Святы Айцец прызначыў Генеральнага рэлятара XVI Звычайнай Генеральнай Асамблеі Сінода Біскупаў. Ім стаў кардынал Жан-Клод Олерыш, арцыбіскуп Люксембурга.

62-гадовы кардынал будзе каардынаваць дыскусіі і распрацоўку дакументаў, якія будуць прапанаваны для разгляду ўдзельнікамі біскупскага форуму. Акрамя пастырскага кіраўніцтва архідыяцэзіяй Люксембурга, іерарх з'яўляецца старшынёй Камісіі Біскупскіх Канферэнцый Еўрапейскай Супольнасці.

### Ватыканскія сады: новая мазаіка прысвечаная апякунцы Калумбіі

Кардынал Джузэпэ Бэртэла, старшыня Губернатарата Дзяржавы Ватыкан, асвяціў у Ватыканскіх садах мазаіку з вывай Маці Божай Ружанцовай з Чыквінкіры, апякункі Калумбіі. Такім чынам была адзначана гадавіна каранацыі абраза, які ўшаноўваецца таксама ў многіх іншых частках Лацінскай Амерыкі.

У цырымоніі прынялі ўдзел Хорхэ Марыя Істман Рабледа, пасол Калумбіі пры Апостальскай Сталіцы, і прадстаўнікі Ордэна дамініканцаў з правінцыі св. Людвіка Бертрана ў Калумбіі. “Знак Маці Божай запрашае нас шмат працаваць дзеля росквіту і сацыяльнай справядлівасці, якіх не хапае ў нашай краіне”, – падкрэслілі манахі.

У Ватыканскіх садах знаходзяцца выявы Багародзіцы з многіх краін і санктуарыяў.

### Малітоўныя інтэнцыі на жнівень

#### паўсюдная

Молімся за Касцёл, каб атрымаў ад Святога Духа ласку і сілу, каб рэфармавацца ў святле Евангелля.

#### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Пан благаславіў работадаўцаў і працаўнікоў ды захаваў іх ад страты працы.

### Малітоўныя інтэнцыі на верасень

#### паўсюдная

Молімся, каб усе мы здзейснілі мужны выбар на карысць стрыманага і экалагічна ўраўнаважанага ладу жыцця, радуючыся маладым людзям, якія рашуча ў гэта ўцягнуты.

#### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Пан благаславіў дзяцей і моладзь у новым навучальным і катэхетычным годзе.

# АДПУСТОВАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ У САНКТУАРЫІ Ў ТРАКЕЛЯХ


grodnensis.by

працяг са с. 1

**10–11 ліпеня ў дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях (дэканат Радунь) пад дэвізам "Марыя, у Табе наша надзея" прайшлі дыяцэзіяльныя ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Каралевы нашых сем'яў.**

Кс. Юрый Марціновіч

Сёлета пілігрымы ў санктуарыі асаблівым чынам дзякавалі за 30 гадоў існавання Гродзенскай дыяцэзіі і за яе першага біскупа Аляксандра Кашкевіча, які ў гэтым годзе адзначае таксама 30-ую гадавіну з часу прыняцця біскупскай сакры.

У сувязі з пандэміяй каранавіруса не было арганізаваных паломніцкіх груп, як гэта адбывалася звычайна, аднак шмат людзей прыбылі ў індывідуальным парадку: з Воранава, Іўя, Ліды і іншых мясцовасцей.

У межах сёлетніх урачыстасцей біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў марыйную алею на прыкасцёльным пляцы, дзе размясціліся 15 копій унікальных абразоў Маці Божай з розных месцаў Гродзеншчыны.

Заключную Эўхарыстыю ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч. Для прадстаўніка папы Францішка ў нашай краіне гэта была першая нагода прыглядзецца да вернікаў і сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі, якія перад літургіяй аднавілі сужэнскія абяцанні.

У Тракелях адбылася таксама прэзентацыя кнігі Станіслава Янчарскага "Касцёлы Беларусі. Гродзенская дыяцэзія". Выданне, у якім змешчаны фотаздымкі з гісторыяй святынь Гродзеншчыны, складаецца з двух тамоў. Яно прысвечана 30-годдзю адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЗША.** У Вашынгтоне пачаўся першы міжнародны саміт на тэму свабоды веравызнання. У мерапрыемстве ўдзельнічаюць вышэйшыя ўлады ЗША і прадстаўнікі ўсіх рэлігій, прысутных у гэтай краіне, уключаючы амерыканскі епіскапат. Мэта сустрэчы – павысіць усведамленне важнасці рэлігійнай свабоды ў свеце і стварыць шырокую кааліцыю, якая будзе падтрымліваць гэтую свабоду. Праграма ўключае выступленні на тэму абароны бежанцаў, росту рэлігійнага нацыяналізму і выкарыстання сучасных тэхналогій у праследзе рэлігіі.

**КУБА.** У краіне пасля нядзельных дэманстрацый адбываюцца арышты і рэпрэсіі. Гэта цана за выказванне супраціўлення камуністычнаму рэжыму. Ахвярамі рэпрэсій сталі, між іншым, духоўныя асобы і свецкія каталіцкія дзеячы. Кс. Монтэс дэ Ока, адказны за сацыяльную камунікацыю ў дыяцэзіі Камагуэй, падкрэсліў цалкам мірны характар дэманстрацый і жорсткія рэпрэсіі з боку ўлад. Сёння людзі Касцёла прысвячаюць шмат часу малітве, суцяшэнню і спадарожнічанню па меры сваіх сіл і магчымасцей тым, хто становіцца ахвярамі праследу, прагнучы міру і паяднання для ўсіх.

**ПОЛЬШЧА.** Сімвалы Сусветных дзён моладзі – Крыж і абраз Маці Божай Ацалення рымскага народа – наведаюць дыяцэзіі краіны з 21 жніўня да 1 верасня. Польшча стане адной з нямногіх краін, дзе сімволіка СДМ будзе гасціць у рамках падрыхтоўкі да моладзевага форуму, які адбудзецца ў Лісабоне ў 2023 годзе. Пілігрымка Крыжа і іконы Марыі праз польскія дыяцэзіі – гэта плён сустрэчы дырэктара Нацыянальнага арганізацыйнага бюро СДМ кс. Марыюша Вількі з Арггамітэтам Дзён моладзі ў Лісабоне.

**БРАЗІЛІЯ.** 60 бразільскіх біскупаў, якія служаць у рэгіёне Амазоніі, выразілі пратэст супраць праекта новага аграрнага закона. Ён прадугледжвае рэгуляванне прававога статусу незаконна занятых і высечаных тэрыторый у джунглях Амазоніі. Згодна з заканадаўчым праектам, незаконна занятыя тэрыторыі са спустошанымі лясамі павінны быць прыватызаваны. Біскупы Амазонкі лічаць, што змена юрыдычных норм, якія рэгулююць прыватызацыю дзяржаўных зямель, можа мець вельмі негатыўны ўплыў на ўвесь рэгіён. Сенат падтрымаў просьбу біскупаў, а яго старшыня абвясціў грамадскія кансультацыі па гэтым пытанні.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# "РЭКАЛЕКЦЫІ – ГЭТА НЕ АДЗІНЫ ШЛЯХ ДА ПАГЛЫБЛЕННЯ ДУХОЎНАГА ЖЫЦЦЯ, АЛЕ ЗААХВОЧВАЦЬ ВАРТА". РАЗМОВА З ЕЗУІТАМ


jezuity.by

**А. Віктар Жук – езуіт родам з Пінска, у Таварыстве Езуса з 2003 года. Бібліст. Святарскае пасвячэнне прыняў у 2014 годзе. Вучыўся ў Італіі, ЗША, Польшчы і Расіі. У 2015–2019 гадах працаваў у Маскве ў Інстытуце св. Тамаша. 3 ліпеня 2019 года з'яўляецца пробашчам парафіі ў Віцебску.**

працяг са с. 1

**Сёння размаўляем з айцом Віктарам Жуком SJ пра развіццё езуіцкіх рэкалекцый у Беларусі. Разбіраемся ў тым, як усё пачыналася, якія прапановы існуюць на сёння і якія планы на будучыню. Таксама разважаем пра духоўныя практыкаванні ў Беларусі ўвогуле ды абмяркоўваем дасягненні і праблемы беларускага рэкалекцыйнага руху.**

Арцём Ткачук

***– Колькі гадоў у Беларусі ўжо праводзяцца ігнацыянскія рэкалекцыі? Як усё пачыналася?***

– З 1990-ых гадоў езуіты праводзілі рэкалекцыі для сясцёр Місіянерак Святой Сям'і ў Баранавічах. Туды прыязджалі айцы з Польшчы, а пазней – з Расіі. Першапачаткова гэта былі духоўныя практыкаванні толькі для сясцёр. Дзесяці ў 2000-ых гадах пачалі прапаноўваць удзельнічаць таксама і свецкім асобам.

У 2015 годзе гродзенскія святары запрасілі а. Юзафа Аўгустына ў Навагрудак. Ён тады правёў рэкалекцыі, у якіх удзельнічалі як духоўныя, так і свецкія асобы. З таго часу для апошніх існуе шырокая і пастаянная прапанова. На сёння, калі палічыць усіх, хто прымае ўдзел у практыкаваннях на працягу года, свецкіх асоб ужо будзе больш.

***– У якіх гарадах і з якой перыядычнасцю праводзяцца ігнацыянскія рэкалекцыі?***

– Штогод адна серыя ў Навагрудку і Баранавічах. У Баранавічах часам бываюць практыкаванні толькі для сясцёр, часам таксама для свецкіх. Некалькі гадоў у Баранавічах рабілі яшчэ рэкалекцыі зімой. То-бок, 3-4 туры практыкаванняў на працягу года ёсць.

***– Ці складана збіраецца група? Хапае ахвотных?***

– У гэтым годзе было вельмі шмат жадаючых. Спачатку ў Навагрудку хацелі правесці толькі адзін тур, але цяпер ёсць патрэба і для другога. Аднак насамрэч не заўсёды так было. Падаецца, што сёлета з-за пандэміі людзям проста не хапала рэкалекцый і яны засумавалі.

***– Чаму людзі выбіраюць менавіта духоўныя практыкаванні ў езуітаў? Брэнд працуе на сябе?***

– Думаю, многія дзеляцца ўласным досведам. Першы час святары і манахіні рэкамендавалі рэкалекцыі тым, хто быў да іх гатовы, тлумачылі, у чым заключаецца сутнасць. Калі людзі маюць нейкі духоўны голад, то прыязджаюць.

***– Хто гэтыя свецкія, што прыязджаюць да Вас на практыкаванні? Актыўныя каталікі ці незнаёмыя ў сваіх парафіях людзі, якія вядуць глыбокае духоўнае жыццё?***

– Зазвычай гэта людзі, якія вядуць дастаткова глыбокае духоўнае жыццё і адначасова актыўныя ў сваёй парафіі. Шмат хто вучыўся ў адным з катэхетычных каледжаў. Напэўна, гэта тыя, хто шукае штосьці глыбейшае ў сваім жыцці.

***– Плануеце рабіць больш тураў, нейкія новыя фарматы? Я бачыў, што Вы паспрабавалі анлайн варыянт.***

– Анлайн варыянт быў вымушаны, бо ў мінулым годзе мы не змаглі арганізаваць рэкалекцыі ў Навагрудку. Аднак насамрэч ён сябе апраўдаў. Многія змаглі паспрабаваць ігнацыянскую духоўнасць, не выходзячы з дому.

Сёлета я супрацоўнічаў з групай суправаджаючых, бо ніхто з маіх сабратоў не змог далучыцца. Папрасіў аднаго дыяцэзіяльнага святара, адну манахіню і адну свецкую

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА


Алена Майсюк

# КЛОПАТ ПРА НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ ЗАСЦЕРАГАЕ ЧАЛАВЕКА АД СПЯКОТЫ І ІНШЫХ КАТАКЛІЗМАЎ




**Гарачыя дні надышлі ў Беларусі. Як зберагчы сябе і тое, што нам важна для жыцця? Дзе той баланс паміж "цяпер" і "ўстойлівым развіццём для будучыні"? Чаму пакос травы, высечка дрэў і інтэнсіўная монакультурная гаспадарка адымаюць у нас жыццё – чытайце ў новым матэрыяле.**

### ВЫСЕЙВАЦЬ РАЗНАТРАЎЕ ВАКОЛ СЯБЕ І КАСІЦЬ ТРАВУ З РОЗУМАМ

Монакультурныя палі, лясы і газоны становяцца ўразлівымі для кліматычных змен і не здольны паклапаціцца пра сябе ў доўгатэрміновай перспектыве. Высаджваючы траву для фарміравання газона, чалавек асуджае сябе на працу, якая ў выніку ідзе яму на шкоду. Аб газоне трэба клапаціцца і для прыгажосці рэгулярна знішчаць зялёную масу. Празмерны і часты пакос парушае месца пражывання насякомых, птушак, дробных жывёл. Пры гэтым ушчыльняецца глеба, што прыводзіць да акіслення, эрозіі і – у рэзультаце – да апустыньвання тэрыторыі, калі яе не ўгнойваць. А ўгнаенні трапляюць у ваду, якую сам жа чалавек і выкарыстоўвае. Акрамя таго, з-за рэгулярных пакосаў касец атручваецца выхлапамі бензіну.

Захаванне ад перасыхання глебы – гэта асноўная функцыя травы. Яна здольна затрымліваць вільгаць, ствараючы мікраклімат прасторы, у якой няма гарачай спякоты ці страшэннага холаду. Клімат становіцца мякчэйшым, таму што расліннасць спрыяе плаўнай змене тэмпературы і вільготнасці. Арганізм чалавека не адчувае пры гэтым празмерных нагрузак і застаецца здаровым.

Калі паглядзець на натуральныя лугі і ўзлескі, мы бачым разнатраўе, у якім расліны, насякомыя і іншыя жывыя арганізмы падтрымліваюць адзін аднаго. У гарачае надвор'е зялёная маса пакідае дастаткова вільгаці для змяншэння тэмпературы, і ўсё жывое выкарыстоўвае гэта сабе на карысць.

Высаджвайце разнатраўе і пакідайце траву натуральна расці, утоптваючы толькі месцы вашых сцежак. Калі дзесьці патрабуецца пакос – пакідайце не менш 3 сантыметраў травы, тады яна працягвае расці здаровай і моцнай.

### БЕРАГЧЫ ДРЭВЫ І КУСТЫ

Яшчэ больш зялёнай масы ўтрымліваюць неабрэзаныя дрэвы і кусты. Як і трава, яны захоўваюць натуральную вільготнасць пад кронамі, што дазваляе падтрымліваць прыемную тэмпературу. Таму прахалода лясоў і паркаў абараняе ўсё жывое. Там, дзе скошана трава, высечаны кусты і абрэзаны дрэвы, чалавек не можа доўга знаходзіцца: узнікаюць негатыўныя наступствы для здароўя.

Дамы і дарогі ў гарадах – яшчэ большая крыніца назапашвання цяпла. Асфальт здольны акумуляваць цяпло і разам з выпарэннямі атручваць арганізмы. Высаджаныя ўздоўж дарог дрэвы і пакінутая трава не толькі стрымліваюць распаўсюджанне небяспечных рэчываў, але і памяншаюць тэмпературу паветра. У зацененых дрэвамі дамах можна знаходзіцца доўгі час без шкоды для здароўя.

Высаджвайце дрэвы і хмызнякі, абараняйце разгалістыя кроны ад абрэзкі. Першапрычына аварыйнасці дрэў – гэта адсутнасць доступу паветра да каранёў. Іх закочваюць у асфальт, закаркоўваюць тратуарнай пліткай, а людзі ўтоптваюць, калі не ходзяць па тратуарах. Каб вырасціць дрэва, патрэбны гады, а спілаваць можна за гадзіну.

### ЗАХОЎВАЦЬ ВАДАЁМЫ

Дрэвы не могуць расці без вады, а вада ў вадаёмах захоўваецца дзякуючы дрэвам і кустам вакол. Меліярацыйныя мерапрыемствы ствараюць пагрозу для чалавека: рэкі перасыхаюць, павялічваюцца плошчы для ветру, павышаецца тэмпература паветра. Экасістэма прадугледжвае ўзаемасувязь усяго жывога. Выдаляючы адзін з яе кампанентаў, чалавек разбурае баланс, што прыводзіць да з'яўлення нежыццяздольных тэрыторый.

Ад гэтага знікае вада, адбываецца апустыньванне і павялічваюцца перапады тэмператур ад спякотнага лета да халоднай зімы. Гэтыя перапады зношваюць чалавечы арганізм.

Пітная вада знікае, калі асушаць балоты, рэкі ператвараюцца ў меліярацыйныя каналы, азёры – у квітнеючыя і зарастаючыя ад лішняй арганікі сажалкі. Насельніцтва планеты ўжо адчувае дэфіцыт чыстай вады. Знішчэнне вадаёмаў адбываецца за месяц інтэнсіўных работ, а аднаўленне патрабуе дзесяцігоддзяў. Часам страта ўвогуле беззваротная.

Інтэнсіўнае зарыбленне азёр прыводзіць да знікнення вялікіх рэзервуараў чыстай вады. Паступова азёры зарастаюць. Але ператвараюцца не ў балоты, а ў пустынныя месцы. Рыба ў такіх умовах не нагульвае неабходныя для здароўя рэчывы і хварэе. Такую рыбу прадаюць насельніцтву, што прыводзіць да паслаблення чалавека.

Пакідайце натуральныя вадаёмы чыстымі, рэкі – ва ўласным рэчышчы з расліннасцю ўздоўж берагоў, балоты – з першароднымі працэсамі. Памяншайце расход вады, нават са свідравіны.

---

асобу. Разам мы спадарожнічалі людзям, і гэта быў выдатны досвед таго, што ігнацыянскія рэкалекцыі могуць даваць не толькі езуіты, але і адпаведна падрыхтаваныя людзі. Можна сказаць, што гэта нейкі новы фармат.

Акрамя таго, некаторыя людзі ведаюць, што я займаюся бібліядрамай (падыход у даследаванні тэкстаў Біблії – *заўв. аўт.*). У Італіі, Германіі, Польшчы сустракаецца досвед камбінацыі традыцыйных ігнацыянскіх рэкалекцый з гэтым метадам. Таму я цяпер думаю наконт арганізацыі такой пілотнай прапановы.

**Цэнтрам ігнацыянскай духоўнасці з'яўляюцца духоўныя практыкаванні. Метад быў распрацаваны св. Ігнацыем Лаёлам, заснавальнікам ордэна езуітаў, у XVI стагоддзі. Асновай духоўных практыкаванняў з'яўляецца медытацыя і кантэмпляцыя. Рэкалекцыі адбываюцца ў поўнай цішыні.**

***– Стэрэатыпна ігнацыянскія рэкалекцыі атаясамліваюцца з цішынёй. Гэта трапнае акрэсленне?***

– Ну, гэта не стэрэатып, а патрабаванне рэкалекцый (смяецца – *заўв. аўт.*). Я тлумачу ўдзельнікам, што па-англійску кажуць "ignatian retreat" – ігнацыянскія рэкалекцыі, але таксама і "silent retreat" – рэкалекцыі ў маўчанні. Гэта адметная і неабходная рыса ігнацыянскіх духоўных практыкаванняў, іх ключавы момант.

***– Вы ўжо ўзгадвалі, што такія рэкалекцыі падыдуць не кожнаму. Каму б не раілі прыязджаць?***

– Перш за ўсё, тым, хто не мае сур'ёзнага досведу малітвы. Малітвы не на падставе малітоўніка, а самастойнай, пры дапамозе Божага слова. Гэта, канешне, вельмі ўмоўнае абмежаванне. Вядома, калі ў людзей ёсць нейкія сур'ёзныя псіхічныя адхіленні, то таксама могуць быць нюансы. Аднак насамрэч, калі асоба адчувае жаданне паглыбляць сваё малітоўнае жыццё, то нават адпаведным суправаджэнні на гэтыя рэкалекцыі шмат хто мог бы прыязджаць.

***– Магчыма, чалавеку, які разважае над тым, каб паехаць на ігнацыянскія рэкалекцыі, варта параіцца са святаром з парафіі ці проста асобай, якая вядзе духоўнае жыццё?***

– Так, гэта адно з патрабаванняў, якое мы ставім перад удзельнікамі. Просім падаць кантакт духоўнай асобы, каб патэлефанаваць і папрасіць рэкамендацыю пра гэтага чалавека.

***– А ці можа быць так, што рэкалекцыі асобе аб'ектыўна не крытычна патрэбныя? Вядома, мяжы дасканалення няма. Аднак калі вядзецца малітоўнае хрысціянскае жыццё, сапраўды жывецца Богам на кожны дзень…***

– Рэкалекцыі, у тым ліку ігнацыянскія, – гэта не адзіны шлях для паглыблення свайго духоўнага жыцця. Дзякуй Богу, у парафіях існуюць розныя малітоўныя групы, ёсць магчымасці паглыбляць духоўнасць. Таму я не лічу, што рэкалекцыі – неабходны досвед.

Тым не менш, можна шмат што чэрпаць з духоўнасці св. Ігнацыя. Напрыклад, ёсць такі важны прынцып ігнацыянскай духоўнасці – шукаць і знаходзіць Бога ва ўсім. Ён асабліва падыходзіць для людзей, якія вельмі занятыя.

Лічу, што такія выязныя рэкалекцыі – гэта своеасаблівы больш інтэнсіўны час камунікацыі з Богам. А ігнацыянская духоўнасць накіравана на тое, каб дапамагаць людзям у іх актыўным штодзённым жыцці знаходзіць Божую волю.

***– У духоўных асоб – асабліва манахаў і манахінь – рэкалекцыі з'яўляюцца абавязкам. Аднак свецкіх у Касцёле гэта літаральна не тычыцца. Як правільна падысці да гэтай праблемы, і ці праблема гэта ўвогуле?***

– Для законнікаў такі абавязак вынікае з самога характару кансэкраванага жыцця. Падобныя інтэнсіўныя перыяды з Богам проста неабходныя, каб падтрымліваць сваю духоўную форму.

Я лічу, што, канешне, варта заахвочваць людзей удзельнічаць у такога роду ініцыятывах. Прапанаваць больш даступныя формы, напрыклад, магчымасць прыехаць на рэкалекцыі на выхадныя. Карацей кажучы, шукаць, як зрабіць пагружэнне ў духоўнасць больш даступным. Мне здаецца, цяпер нямала такіх прапаноў у Беларусі. Безумоўна, лепш не змушаць да іх, а заахвочваць.

***– Прызнаюся, мяне крыху бянтэжыць сучасная форма парафіяльных рэкалекцый. Прыехаў ксёндз, людзі пасіўна паслухалі, пару дзён пахадзілі ў касцёл – і на гэтым усё. А ёсць нейкія спробы пераносу досведу ігнацыянскіх рэкалекцый на ўзровень "стандартных" парафіяльных? Можа, памаўчаць гадзінку пасля Імшы ўсёй парафіяй?***

– Згодзен, ёсць патрэба змены гэтага традыцыйнага фармату. Ведаю, што мае сабраты спрабуюць ладзіць парафіяльныя рэкалекцыі інакш. Яны пакідаюць тую частку, якая датычыць усёй парафіі – гамілію, магчымасць споведзі – і, разам з тым, уводзяць нешта новае.

Адзін езуіт у Сібіры ў сваёй маленькай парафіі прапанаваў заставацца пасля св. Імшы і спрабаваць малітву ў цішыні, малітву пры дапамозе Божага слова – малітву асабістую, не пасіўную.

Таму варта эксперыментаваць. Гэта, канешне, азначае дадатковы высілак для арганізатараў і рэкалекцыяніста, аднак справа вартая.

***– Як Вам здаецца, куды будзе рухацца рэкалекцыйны рух ў бліжэйшыя пару гадоў у Беларусі?***

– Думаю, розных прапаноў будзе ўсё больш: ігнацыянскія, сямейныя, харызматычныя рэкалекцыі. Насамрэч гэта добра, што ёсць выбар і нават здаровая канкурэнцыя. Разам з гэтым будзе расці неабходнасць паляпшэння якасці духоўных практыкаванняў, каб адпавядаць патрэбам людзей: не проста "звальвацца з неба", а грунтавацца на тым, чым жыве сучасны чалавек, якія ён мае пытанні і з якімі сітуацыямі сутыкаецца кожны дзень.

**Сёлета езуіты святкуюць юбілей – 500-годдзе навяртання св. Ігнацыя Лаёлы. Добрая нагода, каб падпісацца на Facebook Таварыства Езуса ў Беларусі.**

**facebook.com/jezuity.by**

**Навіны, гамілії і разважанні, ігнацыянская духоўнасць, анонсы рэкалекцый у Баранавічах і Навагрудку.**

**jezuity.by**

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ПЕРАМАГЧЫ НЯСМЕЛАСЦЬ?


Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

У кожным чалавеку ёсць трохі нясмеласці. Часам быць нясмелым нават добра, бо гавораць, што такі чалавек спачатку падумае, а потым скажа. Але бываюць сітуацыі, калі нясмеласць становіцца хваробай. Тады яна можа вельмі ўскладніць жыццё.

Баязлівец звычайна баіцца новых выклікаў, знаёмстваў, мала ўсміхаецца, не мае рашучасці. Часцей за ўсё ў яго нізкая самаацэнка, і ён ніколі не будзе ставіць перад сабой высокіх патрабаванняў, бо страх усё паралізуе. Збоку выглядае так, быццам ён баіцца ўсяго і ўсіх: павышаецца патлівасць, артэрыяльны ціск, узнікаюць праблемы са сном і харчаваннем і г. д. Такі чалавек не можа знаходзіцца ў сваім атачэнні, і ён шчаслівы, калі застаецца сам-насам з сабой. У падобных сітуацыях варта звярнуцца да спецыялістаў, якія дапамаглі б пераадолець нясмеласць. Таксама варта паспрабаваць штосьці зрабіць самастойна, бо пастаноўка мэты – гэта ўжо першы крок да перамогі.

Дык што рабіць, каб перамагчы нясмеласць? Прывяду некалькі методык:

1. **Паспрабаваць развіць упэўненасць у сабе за кошт выканання розных задач.** Спачатку яны могуць быць лёгкімі. Важна, каб чалавек іх выканаў і адчуў задавальненне сваімі дзеяннямі. Пазней варта перайсці да больш складаных задач. Можна, напрыклад, выбраць тры найбольш істотныя мэты і пастарацца рэалізаваць іх за месяц.

2. **Навучыцца рабіць кампліменты і прымаць іх.** Для гэтага практыкавання патрэбны добры сябар. На аркушы паперы кожны павінен напісаць добрыя якасці адзін аднаго, а потым услых растлумачаць, чаму выбраў менавіта іх, пачынаючы сказ словамі: "Што мне сапраўды падабаецца ў табе, гэта..." Важна, каб у спісе быў хаця б дзесятак добрых характарыстык чалавека. У такім практыкаванні мы правяраем, што адчуваем, калі нас хваляць. Вельмі важна прымаць пахвалу пра сябе і атрымліваць асалоду ад добрых слоў.

3. **Навучыцца вітацца з іншымі.** Было б добра першымі вітаць тых, каго сустракаем кожны дзень на працы ці дзе б мы ні былі. Можна таксама спытаць у суразмоўцы, як яго здароўе ці як справы. Можа, не ўсе гэта зразумеюць, але знойдуцца тыя, хто таксама добразычліва нам адказа. І тады мы адчуем добрую атмасферу міжасобасных адносін.

Хутка ад нясмеласці не пазбавішся, аднак невялікімі крокамі можна рухацца наперад, выпрацоўваючы свае метады барацьбы са страхам. З дапамогай прыведзеных метадаў кожны можа дома паспрабаваць пераадолець нясмеласць.

Веруючы чалавек павінен таксама памятаць пра давер да Бога. Варта аддаць сябе пад апеку Святога Духа, які будзе весці ў цяжкія хвіліны жыцця. Таму што, як нагадвае св. Павел у Другім пасланні да Цімафея, "Бог даў нам не духа боязі, але сілы, любові і разважнасці" (2 Цім 1, 7). Калі нясмеласць перашкаджае Вам жыць і атрымліваць асалоду ад жыцця, паспрабуйце нешта з ёй зрабіць, даверыўшы свае добрыя пажаданні Святому Духу.

# ШУКАЮЦЬ БОГА Ў ПРОСТЫХ РЭЧАХ

працяг са с. 1

**Пра харызму сясцёр кармэлітак і свой шлях у Кармэль распавядае с. Магдаліна Кулай CSCII, якая служыць у Гудагаі і Смаргоні.**

Кс. Юрый Марціновіч

*– Якім быў шлях да заснавання Вашай кангрэгацыі?*

– Кангрэгацыя Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езуса была заснавана а. Анзэльмам Гондэкам OCD у горадзе Сасновец у Польшчы 31 снежня 1921 года. А. Анзэльм адчуў у сэрцы Божы заклік, каб акрамя ўжо існуючага Ордэна Сясцёр Кармэлітак Босых, якія жывуць і моляцца, працуюць і служаць Богу ў сцiслай клаўзуры, заснаваць кангрэгацыю сясцёр кармэлітак, якія б жылі рэгулай кармэліцкага ордэна, але служылі, маліліся і працавалі сярод людзей. Напэўна, пасля малітвы а. Анзэльм разважаў над гэтым натхненнем і паспрабаваў ажыццявіць яго праз канкрэтнае дзеянне.

З прапановай заснавання новай галіны ордэна а. Анзэльм звярнуўся да Яніны Кераціньскай, якая адчувала ў сэрцы пакліканне да манаскага жыцця ў кармэліцкай харызме. Яніна згадзілася, давяраючы Богу сваё жыццё, і ўсё распачалося. Яна склала манаскія абяцанні і атрымала імя Тэрэза ад св. Юзафа. Неўзабаве з'явіліся пакліканні да новай супольнасці. Сёстры сустракаліся са шматлікімі цяжкасцямі і выпрабаваннямі, але Бог быў побач.

А. Анзэльм, наш заснавальнік, назваў супольнасць Кангрэгацыяй Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езуса і заахвочваў наследаваць цноты Дзіцятка Езуса. Жыццё Сясцёр прыпамінала жыццё Святой Сям'і з Назарэта – убогае, простае і цалкам даверанае Божаму Провіду.


С. Магдаліна Кулай першая злева

*– Якія прыярытэты для членаў супольнасці былі ўказаны заснавальнікамі?*

– Нашы заснавальнікі накіравалі новую супольнасць сясцёр, каб праз усё сваё жыццё і служэнне Богу ды людзям мы ўглядаліся асаблівым чынам у Асобу Дзіцятка Езуса. Каб угледзеліся ў Езуса ў яслях, у Бога, які стаў Чалавекам, каб ішлі за Ім ад стайні аж да Крыжа. Такім чынам, нашым узорам і прыкладам з'яўляецца Бог – Дзіцятка Езус.

Галоўнай апякункай кангрэгацыі заснавальнікі выбралі св. Тэрэзу ад Дзіцятка Езуса, якая мела асаблівае набажэнства да Яго Асобы. Менавіта гэтая святая апякуецца нашай кангрэгацыяй ужо 100 гадоў.

У якасці заданняў у харызме супольнасці вызначана служэнне ўбогім і найбольш патрабуючым, катэхізацыя дзяцей і моладзі, дапамога ў закрыстыі, паслуга арганісткі, выхаванне дзяцей у дзіцячым садку, праца з дзецьмі інвалідамі і шматлікія хатнія працы пры кляштары.

*– Як даўно сёстры кармэліткі служаць у Беларусі і ў якіх месцах?*

– Сёстры з нашай супольнасці нясуць сваю паслугу ў Беларусі з 1991 года – сёлета здзяйсняецца 30 гадоў. Сёння ў краіне тры кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езуса: у Пінскай дыяцэзіі ў Брэсце і ў Гродзенкай дыяцэзіі ў Адамавічах і Гудагаі.

*– Як цяпер выглядае сітуацыя з пакліканнямі? Колькі сясцёр паходзяць з Беларусі?*

– У Беларусі служаць адзінаццаць сясцёр, і ўсе родам адсюль. Дзве сястры, якія паходзяць з нашай краіны, нясуць служэнне ў Польшчы. Таму разам атрымліваецца трынаццаць сясцёр з Беларусі.

*– Бог мае самыя разнастайныя планы на наша жыццё. Як Ён даў Вам пазнаць, што хоча для Вас менавіта такой дарогі?*

– Яшчэ школьніцай я прачытала кнігу "Дзеі адной душы" св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езуса і зразумела, што Бог і мяне кліча ў Кармэль. Я захаплялася духоўнасцю кармэліцкага ордэна і вось ужо 17 гадоў не перастаю ёю захапляцца. У Кармэлі Бога можна знайсці ў простых рэчах, а найперш – ва ўласнай душы, як кажа св. Ян ад Крыжа.

*– Што Вы б сказалі маладому пакаленню, якое мае перад сабой розныя дарогі і павінна выбраць адну канкрэтную?*

– Свет змяняецца, але Бог заўсёды той самы. Ён і сёння кліча чалавека, запрашае да асаблівага з'яднання з Ім у поўнай адданасці Яму ў кляштары, каб збавіць сваю душу і душы братоў, якія застаюцца ў свеце. Варта і сёння верыць у Пана, давяраць Яму і памятаць, што Ён – Жывы Бог.

Усемагутны кожнаму дае асабістае пакліканне: да святарства, да манаскага жыцця, да сужэнства, пакліканне быць доктарам, настаўнікам... Але найважнейшае – кім бы ты не быў, Бог прагне тваёго шчасця. Выбірай тое, у чым будзеш шчаслівы! А калі атрымаеш шчасце – нясі яго бліжняму!

**У сотую гадавіну заснавання Кангрэгацыі Сясцёр Кармэлітак Дзіцятка Езуса прыпадае таксама 75-годдзе адыходу ў вечнасць сузаснавальніцы манаскай сям'і Слугі Божай Тэрэзы ад св. Юзафа, Яніны Кераціньскай.**

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як у касцёле неабходна сябе паводзіць перад крыжам і абразамі?

grodnensis.by

*Касцёл – гэта дом Божы, у якім прысутнічае жывы і праўдзівы Бог. Калі ўваходзім у святыню, трэба найперш прывітацца з Езусам Хрыстом, схаваным пад выглядам хлеба ў табернаклі. Акрамя гэтага, сустракаем у святынях іншыя сімвалы, якія служаць нам дапамогай у развіцці веры і нагадваюць, якім чынам мы атрымалі збаўленне. Найважнейшым з іх з'яўляецца крыж – напамін пра тое, што на ім памёр Бог!*

*Калі ў дачыненні да Найсвяцейшага Сакраманту мы дакладна ведаем, як сябе паводзіць, то ў дачыненні да крыжа ёсць няпэўнасць, асабліва зараз, падчас пандэміі COVID-19.*

*Крыж – найвялікшы сімвал любові, бо на ім здзейснілася наша збаўленне. Згодна са старажытнай хрысціянскай традыцыяй, аддаём пашану крыжу праз уцалаванне. Але існуюць і іншыя формы ўшанавання крыжа ў касцёле і перад касцёлам. Можна пакланіцца ці проста прыпыніцца і паглядзець з падзякай на гэты знак збаўлення на працягу хаця б секунды.*

*Акрамя крыжоў, у нашых касцёлах ёсць абразы, на якіх прадстаўлены святыя, што ў час свайго жыцця на зямлі вельмі палюбілі Бога і прысвяцілі сябе Яму. Прыходзячы ў святыню, мы просім у сваіх апекуноў і ўлюбёных святых дапамагчы нам выпрасіць у Бога патрэбных ласкі. У сувязі з гэтым узнікае пытанне, якой павінна быць пастава нашага цела. Яны таксама могуць быць розныя, але самая папулярная – кленчанне са складзенымі рукамі, што выражае знешне волю і жаданне чалавека аддаць Богу пашану, а таксама прасіць у малітве аб патрэбных ласках.*

# АДКРЫЙ СВАЁ СЭРЦА НА БОЖАЕ СЛОВА

*“Падобна як дождж і снег падае з неба і туды не вяртаецца, [...] так і слова Маё, якое выходзіць з вуснаў Маіх, не вернецца да Мяне без плёну, пакуль не споўніць тое, што Я хацеў, і з поспехам не дасягне таго, дзеля чаго Я паслаў яго”.*

*Іс 55, 10–11*

Людвіга Цыдзік

aleteia.org

### СЛОВА – ІНСТРУМЕНТ ТВАРЭННЯ

З самага пачатку гісторыі Сусвету і чалавека нам спадарожнічае Слова. Гэта дзівосны інструмент, надзелены звышнатуральнай сілай. “Словам Пана створаны нябёсы, дыханнем Яго вуснаў – уся іхняя моц. Бо Ён прамовіў – і сталася, Ён загадаў – і з’явілася” (Пс 33 (32), 6. 9). Адзіным інструментам, які Бог выкарыстоўваў цягам усяго працэсу стварэння, з’яўляецца Слова, спалучанае з дыханнем Яго Духа. Падчас жыцця на зямлі Езус таксама ўжываў Слова для стварэння рэальнасці.

У Пасланні да Тэсаланікійцаў св. Павел падкрэслівае, што Біблія – гэта не прадукт чалавечай мудрасці, а жывы Творца, які размаўляе з намі. “Таму мы таксама няспынна дзякуем Богу, што вы, прыняўшы ад нас пачутае Божае слова, прынялі яго не як чалавечае слова, але, што ёсць на самой справе, як Божае слова, якое і дзейнічае ў вас, веруючых” (1 Тэс 2, 13). Калі мы чытаем гэтую Кнігу, адно і тое ж Слова і той самы Дух з усёй велізарнай творчай сілай Усемагутнага становяцца даступнымі для нас.

### ІНСТРУКЦЫЯ ЖЫЦЦЯ

Вытворца аўтамабіля ведае ўсе ўласцівасці, якасці, моцныя і слабыя бакі свайго прадукту, таму ён прадастаўляе інструкцыю, каб кліент мог прыстасавацца да яго і максімальна эфектыўна, без памылак карыстацца аўтамабілем. Падобным чынам і Творца чалавека лепш за нас саміх ведае сакрэты нашай душы. Ён дае нам інструкцыі ў сваім Слове, каб мы маглі прыстасавацца да іх і як мага лепш пражыць сваё жыццё, выконваючы тое, для чаго былі створаны. “Пастанавіўшы, нарадзіў нас Айцец словам праўды, каб мы былі пэўным пачаткам Ягоных стварэнняў” (Як 1, 18).

Існуе вялікая верагоднасць, што чалавек, які жыве паводле сваіх правіл і выкарыстоўвае няправільную сістэму каштоўнасцей, грэбуючы наказамі “Вытворцы”, зробіць шмат памылак і ў выніку згубіцца. Карабель, які плыве па няправільнай карце, рана ці позна страціць арыентацыю на мясцовасці, заблукае і ніколі не дабярэцца да патрэбнага месца. А як наконт нашага жыцця? Колькі памылак мы робім? Ці ў правільным кірунку плывём? Можа, надышоў час прачытаць інструкцыю руху на жыццёвай дарозе?

Божае слова – гэтаісціна, якая асвятліць Тваю дарогу, указальнік на жыццёвым шляху, які дапаможа бяспечна дасягнуць мэты шчаслівай вечнасці з Богам. Аднак гэтае Слова пачне дзейнічаць і выконваць сваё прызначэнне толькі тады, калі Ты адкрыеш сэрца, прымеш яго з верай і будзеш прымяняць яго ў сваім жыцці. Толькі вера надае Божаму слову выканаўчы эфект. Нявера ж блакіруе дзеянне Бога. Ніколі не абмяжоўвай магчымасці, якія Божае слова можа мець у Тваім жыцці. Недастаткова прачытаць інструкцыю – трэба яе прымяняць. Езус сказаў: “Больш за тое, шчаслівыя, хто слухае слова Божае і захоўвае яго!” (Лк 11, 28). “Пасеянае на добрай глебе – гэта тыя, хто слухае слова, прымае яго і прыносіць плён: адзін у трыццаць, другі ў шэсцьдзясят, а іншы ў сто разоў” (Мк 4, 20).

Насенне Божага слова вечнае і непарушнае. Прынятае з верай, яно нараджае ў нашым розуме і сэрцы новага чалавека, які развівае ўнутранае жаданне ісці за Езусам. Адкрываючыся Евангеллю, мы перажываем новае нараджэнне па Божай волі. Наша старая натура, якая была далёкая ад Усемагутнага, страціць над намі кантроль. “Бо вы народжаны зноў не з тленнага насення, але з нятленнага, праз Божае слова, якое жыве і трывае” (1 П 1, 23).

### ЛЮСТЭРКА СУМЛЕННЯ

Калі Ты застанешся сам-насам з Божым словам і пачнеш чытаць, будзь гатовы, што Біблія таксама пачне чытаць Цябе. Яна стане люстэркам Твайго сумлення. Гэтая кніга мае сілу асвятляць цёмныя куткі нашых думак і душы, а таксама выцягваць на паверхню хібы, пра якія мы раней нават не падазравалі. Біблія вельмі дакладна асвеціць рэальнасць і кірунак, у якім Ты рухаешся. “Слова Божае жывое і дзейснае, вастрэйшае за ўсялякі меч двусечны. Яно пранікае ажно да падзелу душы і духа, суставаў і шпіку і здольнае судзіць думкі і намеры сэрца. І няма стварэння, схаванага ад Яго, але ўсё аголена і адкрыта перад вачыма Таго, перад якім мы адкажам” (Гбр 4, 12–13).

---

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***25 ліпеня – XVII Звычайная нядзеля***
***Ян 6, 1–15***

Езус адышоў на другі бок Галілейскага, або Тэберыядскага, мора. Ішло за Ім мноства людзей, таму што бачылі цуды, якія Ён чыніў над хворымі. Езус узышоў на гару і сядзеў там са сваімі вучнямі. А набліжалася Пасха, юдэйскае свята. Калі Езус узняў вочы і ўбачыў, што мноства людзей ідзе да Яго, сказаў Філіпу: “Дзе нам купіць хлеба, каб накарміць іх?”. А казаў гэта, выпрабоўваючы яго, бо сам ведаў, што збіраўся рабіць. Філіп адказаў Яму: “Хлеба на дзвесце дынараў не хопіць, каб кожнаму дасталася хоць крыху”. Адзін з вучняў Ягоных, Андрэй, брат Сымона Пятра, кажа Яму: “Ёсць тут адзін хлопец, які мае пяць ячменных хлябоў і дзве рыбы, але што гэта для такога мноства?”. Езус сказаў: “Загадайце ім сесці”. А было на тым месцы шмат травы. І селі людзі, якіх было каля пяці тысяч. Езус узяў хлябы і, падзякаваўшы, раздаў тым, хто сядзеў; таксама і рыбы, колькі хто хацеў. А калі насыціліся, сказаў вучням сваім: “Збярыце кавалкі, што засталіся, каб нічога не змарнавалася”. Сабралі і напоўнілі дванаццаць кашоў кавалкамі з пяці ячменных хлябоў, якія засталіся пасля тых, хто еў. Калі ж людзі ўбачылі, які цуд учыніў Езус, казалі: “Ён сапраўды прарок, які мае прыйсці на свет”. Калі Езус даведаўся, што хочуць прыйсці і схапіць Яго, каб зрабіць каралём, зноў адышоў на гару адзін.

### Не змарнаваць ласку

*Езус паказвае нам, наколькі блізкі Яму чалавек. Цуд памнажэння хлеба, які Ён здзяйсняе, – гэта адкрыццё Яго ласкі да людзей. Яго любоў не мае межаў. Фрагмент гэтага Евангелля прапануе нам паразважаць над тым, што Езус зрабіў для нас, чым нас адарыў і што надалей дае. А дае Ён нам сябе.*

*Ганс Урс фон Бальтасар пісаў, што Езус дзейнічае, як бясклапотны марнатравец, але ў той жа час не дазваляе, каб штосьці змарнавалася. Загадвае сабраць рэшткі, каб вучні і Касцёл мелі запас ежы для ўсіх, хто мае патрэбу. Мы не можам змарнаваць дар, які атрымліваем ад Бога. Не можам змарнаваць дабро і любоў.*

*Пане Езу Хрысце, навучы мяне дзяліцца з іншымі тым, што атрымліваю ад Цябе.*

***1 жніўня – XVIII Звычайная нядзеля***
***Ян 6, 24–35***

Калі людзі ўбачылі, што тут няма ні Езуса, ні Ягоных вучняў, селі ў чаўны і прыплылі ў Кафарнаум, шукаючы Езуса. Калі ж знайшлі Яго на другім беразе мора, сказалі Яму: “Раббі, калі Ты прыбыў сюды?”. Езус адказаў ім: “Сапраўды, сапраўды кажу вам: шукаеце Мяне не таму, што бачылі цуды, а таму, што з’елі хлеб і насыціліся. Клапаціцеся не пра ежу, якая гіне, але пра ежу, што застаецца на жыццё вечнае, якую дасць вам Сын Чалавечы, бо Яго пазначыў Бог Айцец”. А яны сказалі Яму: “Што нам рабіць, каб выконваць справы Божыя?”. Езус адказаў ім: “У тым справа Божая, каб вы верылі ў таго, каго Ён паслаў”. Народ сказаў Езусу: “Які ж Ты зробіш цуд, каб мы ўбачылі і паверылі Табе? Што ўчыніш? Айцы нашыя елі манну ў пустыні, як напісана: «Хлеб з неба даў ім есці»”. Езус адказаў ім: “Сапраўды, сапраўды кажу вам: не Майсей даў вам хлеб з неба, але Айцец Мой дае вам сапраўдны хлеб з неба. Бо хлеб Божы ёсць той, які сыходзіць з неба і дае жыццё свету”. Тады сказалі Яму: “Пане, давай нам заўсёды такі хлеб”. Езус адказаў ім: “Я ёсць хлеб жыцця; хто да Мяне прыходзіць, не будзе галодны, і хто верыць у Мяне, ніколі не будзе прагнуць”.

### Прыняць Божую любоў

*Хлеб – адзін з найвялікшых дароў, якія нам даў Бог. Кожны з нас штодзённа клапоціцца аб тым, каб не застацца без яго на стале. Хлеб – гэта не толькі ежа, але таксама знак дабра і любові, асабліва калі мы дзелімся ім з іншымі людзьмі.*

*Тым часам Езус нагадвае нам, каб клапаціліся пра хлеб, які дае вечнае жыццё. Вучыць нас, што няма іншага спосабу здаволіць свой духоўны голад, як прыняцце з верай і любоўю Яго самога, які з’яўляецца сапраўдным хлебам з неба. Гэтая рэальнасць рэалізуецца менавіта падчас св. Імшы. І, прымаючы Езуса, мы становімся падобнымі да Яго – становімся добрымі, як хлеб, для іншых.*

*Пане Езу Хрысце, прашу Цябе, дай мне сябе. “Езу, Гостыя, перамяні мяне ў сябе”, – як казала св. с. Фаўстына.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ВІКТАРУ СУБЕЛЮ**

*з нагоды імянін, 24-ай гадавіны святарскай паслугі і атрымання тытула "канонік" жадаем здароўя, сіл, стойкасці, непахіснай веры і надзеі. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе шчаслівы і блаславёны, добры Бог адорвае шчодрымі ласкамі, Панна Марыя няспынна апекуецца, а святы заступнік нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам.*

*Касцёльны камітэт і вернікі касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ ГАННЕ ШЫПАРОВАЙ**

*з нагоды імянін жадаем, каб Пан Бог шчодра адорваў Вас сваімі ласкамі, а Панна Марыя апекавалася. Здароўе няхай будзе моцным, а радасць і супакой верна спадарожнічаюць па жыцці.*

*Касцёльны камітэт і вернікі касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІНЦЭНТУ ЛІСОЎСКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, спакою і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Заўсёды будзьце ахоплены праменямі Божай міласэрнасці, Яго ласкай, апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Лідзе*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ХАНЬКО**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў, добразычлівых людзей побач, апекі Маці Божай. Няхай Усемагутны штодзённа дадае Вам сіл, аптымізму і надзеі на лепшае.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Мастоў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ**

*з нагоды надыходзячага дня нараджэння жадаем, каб здароўе было моцным, жыццё – доўгім, сіла – бясконцай, а радасць – штодзённай. Няхай на жыццёвым шляху, Вам заўсёды спадарожнічае Найсвяцейшая Маці, Езус адорвае блаславеннем і патрэбнымі ласкамі, Святы Дух будзе шчодры на свае дары, Анёл-ахоўнік і святы заступнік чуваюць у кожную хвіліну, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.*

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ХАНЬКО**

*з нагоды імянін жадаем, каб здароўе і энергія спадарожнічалі Вам на працягу ўсяго жыцця, прыносячы задавальненне ад усяго, чаго ўдалося дасягнуць, і дазваляючы ставіць перад сабой яшчэ мноства новых мэт. Няхай Марыя аберагае Вашу святарскую веру. Просім у гэты дзень аб нястомнымаднаўленні Вашага святарства ў Касцёле праз Святога Духа, каб Вы стала пацвярджалі сваім жыццём тое аўтэнтычнае значэнне, якое Ваша асабістае пакліканне мае як у Ім самім, так і для ўсіх людзей.*

*Сябры*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ САВІЦКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, моцнай веры і надзеі, штодзённай радасці, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Пана Езуса. Няхай шлях, які Вы выбралі, будзе шчаслівы і блаславёны, а сэрца радуецца кожнаму пражытаму дню.*

*Вернікі капліцы ў Вінцуках*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і здзяйснення ўсіх мар. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а святы заступнік дапамагае рэалізоўваць планы і намеры.*

*Вернікі парафіі Раготна*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЧЭСЛАВУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ**

*з нагоды імянін жадаем, каб Суцяшыцель – Дух Праўды – быў з Вамі праз свае святыя дары. Няхай будуць з Вамі Яго мудрасць і розум, умеласць і рада, мужнасць, набожнасць і боязь Божая, каб Вы заўсёды ўмелі распазнаваць тое, што паходзіць ад Бога, а што – ад "духа свету". Жадаем стойкасці і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, патрэбных Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы.*

*Парафіяне з Росі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ**

*з нагоды імянін жадаем здароўя, шмат сіл, душэўнага супакою, радасці на кожны дзень і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць толькі добразычлівыя людзі, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі.*

*Вернікі касцёла св. Юрыя ў Варнянах і капліцы св. Філамены ў Вароне*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЧЭСЛАВУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ**

*з нагоды імянін жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл у рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай Пан Бог блаславіць Вас, Панна Марыя вядзе шчаслівым шляхам, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і прыносіць радасць, суцяшэнне і дні, напоўненыя Яго дарамі.*

*Пілігрымы пешага паломніцтва Гродна–Рось*

**ПАВАЖАНАЙ СЯСТРЫ МАРЫІ СТАСЕВІЧ**

*з нагоды імянін жадаю, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, супакоем і мудрасцю, а Пан Езус моцна трымаў за руку і вёў выбраным шляхам. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца.*

*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ ШМЫГІНУ**

*з нагоды надыходзячага юбілейнага дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і надзеі на кожны дзень жыцця. Няхай сэрца не кранаюць трывога і смутак, а служэнне прыносіць толькі радасць. Няхай Езус напаўняе Вас яшчэ большай верай, Маці Божая прытуліе да сябе, а Святы Дух асвячае сваім святлом кожны Ваш дзень.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Звеставання НПМ у в. Мяжэрычы*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АЛЯКСАНДРУ МАХНАЧУ**

*з нагоды надыходзячага юбілею жадаем моцнага здароўя, стойкасці і нязгаснага запалу ў служэнні. Няхай шчасце і радасць будуць Вашымі нястомнымі спадарожнікамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя мае Вас у сваёй апецы. Дзякуем за добрыя словы, адкрытае сэрца, малітву і Вашу прысутнасць.*

*Сям'я Снапко, Ліда-Індустрыяльны*

**ШАНОЎНАМУ СТАРШЫНІ СПАДАРУ ТАДЭВУШУ ЖУКУ**

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка, шчодрых Божых ласкаў. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы, а сэрца цешыцца ад плёну. Дзякуем за шчырасць, зычлівасць, чыстае сэрца, усмешку і ахвярную працу ў нашым касцёле.*

*Працаўнікі гродзенскай катэдры*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ МАХНАЧУ**

*з нагоды надыходзячага юбілею жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця і святарскай паслугі, шчырых і верных людзей побач, шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі на шляху служэння. Няхай Ваша сэрца і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць Евангелле. Дзякуем за адданую працу, шчырыя словы і клопат аб святыні і парафіянах.*

*Вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**ЛЮБІМЫЯ БАЦЬКІ РАМУАЛЬД І АЛЕНА РАЖКО!**

*Ужо 50 гадоў Вы крочыце разам праз жыццё, заўсёды з'яўляючыся для нас прыкладам узаемнай любові і павагі. Дзякуем Вам за любоў, клопат, перададзеную веру і выхаванне. Жадаем доўгіх гадоў жыцця ў здароўі і спакоі, Божага блаславення і апекі Найсвяцейшай Маці на далейшыя гады.*

*Дочкі Аня і Вераніка, сыны Ян, Пётр і Віктар з сем'ямі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шмат Божых ласкаў і людской добразычлівасці. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая нястомна чувае, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*Былыя парафіяне з Дзятлава*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**У сувязі з водпускам супрацоўнікаў рэдакцыі наступны нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 12 верасня.**



Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2817; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.